# Бярозка

№ 10/2013(1025)









**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





**ПРЫВІТАННЕ, ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ «БЯРОЗКІ»!**

***Сёння ў нас у гасцях юныя творцы з Берасцейшчыны, удзельнікі абласнога літаратурнага конкурсу «Без дружбы мне, як без вады і хлеба», прысвечанага юбілею паэткі Ніны Мацяш: Анастасія ВАРАБЕЙ, Маргарыта ЛЕАНЧУК, Юлія ПУПЧЫК, Наталля СУПРУН (яны прадстаўлены ў рубрыцы «Верасок»), а таксама Анастасія ДОЎГЕР і Вераніка ЛАБЕЦКАЯ (іх невялікія казачкі ўдзельнічаюць у нашым літаратурным конкурсе «Казкі са школьнага ранца»).***

***Але напачатку пазнаёмцеся з творам яшчэ адной удзельніцы гэтага ж конкурсу, Дар'і НІКАНЧУК з горада Жабінка.***

***Чаму менавіта з гэтага твора мы пачынаем кастрычніцкі нумар «Бярозкі»?***

***Таму што твор гэты нам вельмі спадабаўся, і мы спадзяёмся, што вам, нашы паважаныя чытачы, ён таксама спадабаецца.***

***І яшчэ...***

***Тэма мінулай вайны, балючая і няпростая, яшчэ далёка не вычарпана ў беларускай літаратуры. І вельмі добра, што маладое пакаленне не забывае пра тое, колькі жыццяў было аддана за ВЯЛІКУЮ НАШУ ПЕРАМОГУ!***

**Стваральнікі «Бярозкі»**

# Бацька

*Свайму прадзядулю,*
*які загінуў у гады*
*Другой сусветнай вайны,*
*прысвячаю*

— Адамка, уставай, трэба ехаць на сена, — так Арына будзіла свайго чатырохгадовага сына. Хлопчык ніяк не хацеў расплюшчваць вочы. Праз сон ён чуў, як бацька запрагае каня на двары, як маці ў сенцах працэджвае ў глечыкі малако.

Адасік занепакоіўся: трэба спяшацца! Каб без мяне не паехалі. Апрануўшы палатняныя штаны і сарочку, хлопчык куляй выскачыў з хаты. На ганку стаяла сумка з абедам, бацька рыхтаваў у дарогу воз: спачатку паклаў на яго сена, зверху заслаў старой посцілкай.

— Сам заскочыш ці дапамагчы? — звярнуўся ён да сына.

— Сам, — адказаў Адасік, які ўсё любіў рабіць без чыёй-небудзь дапамогі. Нарэшце, усё было сабрана.

Яшчэ ўвечары даведаўся Адасік, што грэбці сена яны паедуць на Вішняў, а там са сваімі бацькамі будзе і ягоны сябрук-сусед Васілька Базылькаў. «Вось ужо набегаемся», — думаў малы, едучы на возе.

Свайго сябра Адасік заўважыў здалёк: не паспеўшы прыехаць на месца, Васілька, уладкаваўшыся пад самым вялікім стажком, уплятаў з апетытам пампушкі з малаком. Побач сядзеў ягоны сабака Журык і, назіраючы за гаспадаром, разлічваў, што той пачастуе яго гэтай смакатой.

Дарослыя ўзяліся за працу. Дзень абяцаў быць цёплым і сонечным.

«Чаму мама з татам так баяцца дажджу?» — не разумеў Адасік. Не мог уцяміць, чаму нарыхтоўка сена на зіму — самая адказная справа летам.

Чэрвеньскае сонца хутка падымалася, станавілася невыносна горача, але гэта не перашкаджала працы: новыя стажкі выраслі, як грыбы. Сябры не сумавалі: ігралі ў цуркі, у гарэлкі, куляліся ў траве. Іх вясёлы смех разносіўся па ўсім поплаве.

— І калі яны толькі стомяцца? — дзівіўся стары Іван Кулэчка.

Сонца ўжо пачынала садзіцца, калі дарослыя пачалі збірацца дадому.

— Ой-ёй-ёй! — залямантаваў Адасік.

— Што? Што здарылася? — падбегла маці.

Малы ажно заходзіўся ад болю, гаварыць нічога не мог, толькі трымаўся за нагу.

Бацька падышоў да хлопчыка, прысеў і ўсміхнуўся:

— Навошта цвяліў чмеліка?! Вось ён і жагнуў цябе за нагу. Давай, маці, соль, будзем ратаваць сына!

Бацька доўга націраў соллю нагу Адасіка, прыгаворваючы, што балець больш не будзе і да вяселля зажыве.

«Да якога вяселля? — думаў Адасік. — Хутка вяселле ў Лёксы Серадзіной, то, можа, тады перастане балець?» — так разважаў хлопец, а плакаць баяўся, хоць і балела, каб не сказаў потым Васілька, што ён — малы мазун.

Назаўтра нага ўжо не балела. Прачнуўшыся, Адасік успомніў, што сёння нядзеля. Але дзіўна! Чаму ў хаце не пахне аладкамі? Маці заўсёды пячэ іх у нядзелю на сняданак.

— Чаму гаворыце шэптам? Я ўжо не сплю, — крыкнуў Адасік.

Але адказу ён не атрымаў. І далей працягвалі гаварыць шэптам.

У хаце за сталом разам з бацькам сядзелі стары Іван Кулэчка і сусед Сцяпан Ляшкаў. Маці стаяла ля печы, па яе твары цяклі слёзы.

— Вайна, сынок, — толькі і змагла вымавіць яна.

А потым прыгарнула сына да сябе і загаласіла на ўсю хату.

Вечарам Адасік дапамагаў бацьку збіраць рэчы. Маці не пераставала плакаць.

— Вайна хутка скончыцца, — супакойваў яе бацька, — а застаешся ты не адна, вунь які памочнік вырас.

Ад такіх слоў у Адасіка загарэліся вочы:

— Канешне, памочнік!

Хлопчык падышоў бліжэй да маці, абняў яе за калені:

— Пакрыўдзіць цябе нікому не дазволю!

Першы раз не было сорамна Адасіку, калі бацька нёс яго на руках. Нёс да аўтобуснага прыпынку. «Няхай смяюцца хлопцы, я не баюся», — думаў Адасік, мацней прытуляючыся да бацькоўскага пляча. Ён адчуваў, якія моцныя ў бацькі рукі, углядаўся ў ягоны твар, каб запомніць усмешку. Бацька жартаваў, падкідваў Адасіка ўверх, а яму хацелася проста моцна абняцца і моўчкі пасядзець.

Развіталіся хутка. Гучнае: «па машынах» вывела ўсіх з нейкага ступару. Калі машыны рушылі, усе дзеці, як па камандзе, кінуліся за імі. Толькі сіл у хлапчукоў хапіла да канца вясковай вуліцы.

Тры доўгія гады акупацыі Арына не мела ніякіх вестак пра мужа, і толькі пасля вызвалення, летам сорак чацвёртага, вясковая паштальёнка, цётка Ганна, прынесла ў іх дом першую вестачку ад бацькі.

З таго часу франтавыя лісты пачалі прыходзіць рэгулярна. Бацька мала пісаў пра свае вайсковыя справы, больш цікавіўся вясковым жыццём, шмат пытаўся пра Адаську. Той падрос, напрыканцы вайны яму споўнілася сем гадоў. Хадзілі чуткі, што вайна хутка скончыцца.

У дзень Перамогі, 9 мая, цётка Ганна не зайшла, як звычайна, у хату, не прыгасцілася блінцамі, якія з раніцы пякла Арына. Яна ціха пастукала ў акно, паклікала:

— Выйдзі, Арына!

Адасік стаміўся чакаць маці. «Дзе ж яна? У печцы даўно выгарэла, і блінцы я ўсе з'еў!»

Не стрымаўшыся, Адасік сам рушыў на двор.

Арына сядзела на ганку, апусціўшы рукі. Калі іх вочы сустрэліся, Адасік не пазнаў маці: на яго глядзела зусім іншая, заўчасна састарэлая жанчына.

— Пахавальная на бацьку, — ціха сказала яна сыну, паказваючы нейкую скамечаную паперку.

У той дзень такая ж пахавальная прыйшла і ў хату да Васількі.

...Усё лета чакалі хлопцы сваіх бацькоў, верылі, што гэтыя пахавальныя прыйшлі памылкова, што вось-вось з'явіцца знаёмая постаць на вясковай дарозе... А потым беглі да скірдаў, зарываліся ў салому і плакалі, спачатку ціха, а потым ужо нікога не саромеючыся...

Ці могуць плакаць мужчыны?

Ці маюць на гэта права?

Ці дазволена ім?

***Дар'я НІКАНЧУК***





● Верасок

# Каб бацькоўская мова кветкай цвіла...

## Колеры восені



Колеры восені падобны да ўбрання дзяўчынкі, дзяўчыны і жанчыны...

На адзенне дзяўчынкі падобны першы месяц восені. І ва ўбранні верасня, і ў вопратцы гарэзлівай дзяўчынкі ёсць і жоўтыя колеры, і зялёныя, і чырвоныя. Ранняя восень такая ж зменлівая і капрызная, як маленькая дзяўчынка.

Убранне другога месяца восені — кастрычніка — падобна да залатой сукенкі дзяўчыны, упрыгожанай чырвонымі рабінавымі каралямі.

Апошні месяц восені нагадвае мне сталую жанчыну. Колеры строгія, сумныя: шэры, карычневы, чорны...

Кожная пара восені падобна да чалавека, які ў залежнасці ад свайго ўзросту і настрою мяняе колер адзення.

*Анастасія ВАРАБЕЙ,*
*паэтычны клуб «Альтанка», г. Іванава*

## Вясновыя фантазіі...

Гэта была звычайная сакавіцкая раніца, але ў чымсьці яна была не зусім звычайнай. Бо Зіма-чараўніца, прачнуўшыся і расплюшчыўшы вочы, са здзіўленнем пачула спеў жаўрука, які лунаў высока ў небе...

Гэта быў першы жаўрук, але зіма зразумела — ёй час уцякаць.

Ды не пажадала зіма так проста здавацца. У гневе пачала раскідваць паўсюль белы, пушысты снег, паклікала на дапамогу апошнія сакавіцкія маразы. Бо вельмі ўжо баялася сваю страціць уладу.

Але як ні стараліся зіма з маразамі, анічога ў іх не атрымалася. Зразумела Вясна-прыгажуня іх хітрыкі, дакранулася да соннага сонейка пяшчотнымі далонямі. Абудзілася сонейка, праліло на зямлю цёплыя праменьчыкі, пераўтварыла снегавыя сумёты ў вясёлых жэўжыкаў-раўчукоў. А на палянках у лесе ўжо смяяліся блакітнымі вочкамі першыя пралескі.

Ці гэта ўсё толькі мае вясновыя фантазіі?

*Маргарыта ЛЕАНЧУК,*
*паэтычны клуб «Альтанка», г. Іванава*

## Родная мова

Каб бацькоўская мова, як кветка, цвіла,
Каб любыя нягоды яе не згубілі,
Трэба, каб яна з намі заўсёды была,
Каб яе шанавалі, на ёй гаварылі!
Каб гучала на вуліцах і ў дварах,
У хатах бацькоўскіх, у сучасных кватэрах,
Трэба родную мову любіць, зберагаць,
Трэба ў родную мову паверыць!
Трэба ўсім нам яе пазнаваць, вывучаць,
Трэба кожнаму ў родную мову ўлюбіцца!
Каб не ганьбаю — гонарам мова была,
Натхненнем паэтаў і творцаў крыніцай!

***Юлія ПУПЧЫК,***
***паэтычны клуб «Альтанка», г. Іванава***

## Жураўлі

Пад мелодыю лета
Ляцяць жураўлі...
Не, іх песня не спета
На гэтай зямлі.

Ля аконца дзяўчына
Чуе песню здаля.
У яе прад вачыма
Ўся планета Зямля.

Пад мелодыю лета
Ўсё ляцяць жураўлі.
А пад імі палеткі,
Пушчы, ўзгоркі, лагі...





## Жыць — годна

Наканавана так ад веку:
Жыць годна трэба чалавеку,
Каб пражыць дастойна век...
Ты гэта можаш, чалавек!

У жыцці трэба старацца,
Працы, поту не цурацца,
Зайздрасць, злосць перамагаць,
Людзям добрым памагаць.

***Наталля СУПРУН,***
***в. Заверша, Драгічынскі раён***

 

# Знайдзі сваё прызванне, або Як пачаць займацца калекцыянаваннем

Памятаю, у дзяцінстве мне падабалася збіраць фанцікі ад цукерак, паштоўкі і канверты. Гэта была міні-калекцыя. Сапраўды, тыя рэчы для мяне былі самыя-самыя, і калі суседка па лесвічнай пляцоўцы, якая таксама займалася збіральніцтвам, прапанавала абмяняцца, то я згадзілася! Збірала зусім прымітыўныя рэчы, але ж бацькі казалі: «Хай сабе ты і збіраеш паштоўкі, але з узростам ты будзеш разумець усю прывабнасць калекцыянавання. Паступова з'явіцца жаданне з яшчэ большай асалодай збіраць іншыя рэчы... І як бы ўсё ні атрымалася, памятай — захапленне калекцыянаваннем робіць чалавека сапраўдным знатаком мастацтва...»

А як жа цяпер? Што падштурхоўвае сённяшніх падлеткаў цікавіцца калекцыянаваннем? Адказ на гэтыя і іншыя пытанні спрабавала даведацца ў размове з членам праўлення фонду «Сям'я — Яднанне — Айчына» Аляксандрам Вялічкам.

Справа ў тым, што пры Міжнародным фондзе «Сям'я — Яднанне — Айчына» з'явіўся Беларускі цэнтр дзіцячага калекцыянавання. Цэнтр прапаноўвае дзецям і падлеткам, асабліва выхаванцам дзіцячых дамоў і жыхарам сельскай мясцовасці, пастаянную акцыю: «Ствары сваю калекцыю». Арганізатар праекта, член праўлення фонду «Сям'я — Яднанне — Айчына» Аляксандр Вялічка кажа, што вельмі цяжка знайсці першапачатковы матэрыял для калекцыі, асабліва ў аддаленных раёнах Беларусі. Ён упэўнены, што і хлопчыкі, і дзяўчаты захочуць займацца калекцыянаваннем.

— Галоўная мэта — пашырыць праз калекцыянаванне кругагляд дзяцей і падлеткаў, узняць іх агульны культурны узровень, прывіць пачуццё патрыятызму, адцягнуць увагу дзяцей ад уздзеяння вуліцы, у дрэнным разуменні слова, — сцвярджае мой суразмоўца.

Аляксандр Міхайлавіч нават не сумняваецца ў тым, што дзецям спадабаецца збіраць манеты, паштоўкі, бо кожная рэч належыць да пэўнага гістарычнага часу. Ён перакананы і ў тым, што правілаў калекцыянавання не існуе. Чаму? «Бо калекцыянаванне — гэта божая іскра, якой дапамаглі развіцца», — зазначыў Аляксандр Вялічка.

— У сваіх лістах дзеці часцей за ўсё просяць манеты, паштоўкі, банкноты, — распавядае Аляксандр Вялічка. — Быў і такі дзіўны выпадак, калі адзін хлопчык папрасіў даслаць самурайскі меч. На такую прапанову мы адказалі, што меч — гэта прадмет аздаблення кватэры, але даслалі паштоўку з пажаданнем пачаць займацца іншым відам калекцыянавання.





Знайсці адказы на такія пытанні, як пачаць калекцыянаванне, дзе адшукаць першапачатковы матэрыял, дзе захоўваць калекцыю, як зрабіць першасную рэстаўрацыю і г. д., можна будзе ў метадычным комплексе брашур «Юны нумізмат», «Юны баніст», «Юны філакартыст», «Юны філатэліст» і «Юны калекцыянер», якія плануе выпусціць Цэнтр у хуткім часе.

У планах Аляксандра Вялічкі ёсць і такая прапанова: «Напрыклад, тэма па гісторыі 1812 года. Апроч таго, што вучні будуць атрымліваць тэарэтычныя веды на ўроках гісторыі, дык яшчэ мы прапануем ім наглядны матэрыял, так лепей запомніцца».

Але ўсё гэта цяпер знаходзіцца на стадыі распрацоўкі, а пакуль што Цэнтр чакае вашых лістоў. Атрымаць пачатковы набор проста: трэба напісаць ліст па адрасе: **220121, Беларусь, г. Мінск, вул. Прытыцкага, 65, Беларускі цэнтр дзіцячага калекцыянавання МДФ.** У лісце абавязкова ўказаць зваротны адрас, імя і прозвішча (сваё і аднаго з бацькоў), узрост, а таксама кірунак калекцыянавання. У адказ валанцёры бясплатна дашлюць дзецям першапачатковы матэрыял для стварэння калекцыі: манеты, маркі, банкноты, значкі, паштоўкі. Але каб гэты працэс ішоў хутчэй, Цэнтр адчувае патрэбу ў валанцёрах для апрацоўкі дзіцячых лістоў — узрост не мае значэння.

*Дар'я ШОЦІК,*
*фота аўтара*

***На здымках: Аляксандр Вялічка дэманструе некаторыя рэчы, якія могуць атрымаць дзеці, даслаўшы ліст. А вось і самі рэчы!***

● **Конкурс**

# Казкі са школьнага ранца

*Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі» і на сайце часопіса «Маладосць».*

## Адкуль пайшлі зайцы-белякі?

Калісьці вельмі даўно зайцы, як і мядзведзі, зімой спалі. Рыхталіся да зімы яны яшчэ з ранняй восені — насілі ў норкі сухое лісце і высцілалі імі дол. З надыходам маразоў забіраліся ў свае сховішча і на мяккай посцілцы спалі да вясны. Добра было ім: не трэба халоднай зімой думаць, чым пракарміцца, ды і ад драпежнікаў лютых не трэба бегаць.

Але сярод зайцоў жыў адзін вельмі дапытлівы і цікаўны зайчык. Ад другіх звяроў, што не спалі, ён чуў, што зімой усю зямлю пакрывае белы снег, што вада ператвараецца ў лёд, па якім можна бегаць. А мароз гаспадарыць у лесе і не дае звярам спакою...

Захацелася зайчыку самому паглядзець на ўсе гэтыя цуды. І вось зімой, калі ўсе яго сямейнікі паснулі ў норцы, ён ціхенька выбраўся з яе і ахнуў:

— Вой-ёй-ёй, прыгажосць якая!

І сапраўды, уся зямля была пакрыта белай халоднай ватай, якая на сонцы зіхацела і пералівалася ўсімі колерамі вясёлкі. А дрэвы апранулі белыя башлыкі. І такая цішыня стаяла ў лесе, што летам такую і ўявіць цяжка.

Быў, праўда, у лесе і мароз. Але ж затое прыгожа вельмі!

Глянуў зайчык на сябе, а ў яго футра не шэрае, як раней было, а белае стала! Вось як прырода паклапацілася пра нашага зайчыка, каб ён на снезе непрыкметным быў!

Пабег зайчык і пабудзіў усіх зайцоў, бо грэх праспаць такі цуд!

З таго часу зайцы зімой больш не спяць.

***Анастасія ДОЎГЕР,***
***паэтычны клуб «Альтанка», г. Іванава***

## Гномік

На шырокім лузе расло многа кветачак: белыя рамонкі, чырвоная канюшынка, блакітныя званочкі. У адным такім званочку жыў маленькі гномік з вялікімі вочкамі. Раніцай ён умываўся кропелькай расы, піў нектар, днём яго грэлі сонечныя праменьчыкі, а вечарам гномік клаўся спаць у сваім блакітным доміку. Ветрык там яго не даставаў, кроплі дажджу збягалі па званочку на зямлю. Добра і ўтульна жылося гноміку сярод разнатраўя ў кветачцы-званочку.

Але аднойчы здарылася бяда.

Задрыжала зямля, зашапацелі травы, па кветачках, нібы слязінкі, пабеглі ўніз празрыстыя кропелькі расы. Устрывожаны гномік выбег са свайго званочка і ўбачыў, як па шырокім лузе крочыў магутны трактар-касілка. За ім трава і кветкі кладзіся на зямлю роўнымі валкамі.

Вялікія вочкі гноміка сталі яшчэ большымі ад страху. Доміка ў яго больш не было.

Доўга бедаваў гномік, але аднойчы пачуў чыйсьці тоненькі галасочак. Прыгледзеўся і ўбачыў маленькі лісток, які праклюнуўся з карэньчыка скошанага званочка. «Схавайся за мае вузенькія плечы, а хутка тут вырасце новае сцябло са званочкамі», — сказаў яму лісток.

Так і здарылася. І неўзабаве ў гноміка з'явіўся не толькі новы домік-званочак, але і надзейны сябар — зялёны лісточак.

Гномік зноў радаваўся жыццю і сонейку.

*Вераніка ЛАБЕЦКАЯ,*
*паэтычны клуб «Альтанка», г. Іванава*

## Як Смерч, Вецер і Паветра пра людзей размаўлялі

Дзесьці ў невядомай далёкай краіне, пад лёгкімі белымі хмарамі, жылі-былі Смерч, Вецер і Паветра. Рознымі яны былі, зусім паміж сабой не падобныя...

Смерч — моцны, рэзкі, заўсёды быў сам па сабе.

Вецер — гарэза і непаседа, таксама лётаў усюды, але трымаўся куды бліжэй да людзей.

Паветра — вясёлае і добрае, ніколі не размаўляла ні з адным чалавекам, але не таму, што пагарджала людзьмі. Яно любіла гуляць па свеце, заглядваць у вокны, назіраць за людзьмі, якія яго не бачылі.

Людзі заўсёды цікавілі і захаплялі Паветра. Цікавілі іх пачуцці і мары, тое, чым яны займаліся, пра што размаўлялі між сабой.

Смерч і Вецер таксама цікавіліся людзьмі, хоць і не заўсёды ім на карысць.

Часам Смерч, Вецер і Паветра збіраліся ў празрыстай хаце над хмарай і расказвалі, хто з іх што паспеў зрабіць за дзень.

— Я сёння зноў знёс некалькі хат, — знешне абыякава, але з нейкай унутранай злосцю пахваліўся Смерч.

— Навошта ты гэта зрабіў?! — адначасова ўсклікнулі Вецер з Паветрам.

— Не люблю я людзей! — прызнаўся Смерч. — Яны за ўсё сваё жыццё не могуць зрабіць ні адной па-сапраўднаму добрай справы! А калі і зробяць што, дык да апошніх дзён будуць выхваляцца гэтым і ставіць сябе вышэй за іншых! Цьфу! Навошта яны ўвогуле на свеце існуюць, гэтыя людзі?!

Калі ён змоўк, у хаце над хмарай павісла цішыня...

— А вось я лічу, што кожны чалавек асаблівы! — урэшце загаварыў Вецер. — Не бывае толькі добрых або толькі злых людзей. Яны не могуць увесь час шкодзіць або заўсёды рабіць толькі дабро.

Смерч хмыкнуў з недаверам, а Паветра толькі моўчкі ўсміхнулася.

— Я сёння адабраў хустку ў дзяўчынкі, што пасварылася са сваёй сяброўкай і моцна накрычала на яе, занёс гэтую хустку ў лес і павесіў на дрэве, —

працягваў між тым Вецер. — Дык — не паверыце! — сяброўка збегала ў лес і зняла з дрэва гэтую хустку, хаця сама дзяўчынка яе пра гэта не прасіла. Ці вось яшчэ прыклад! Нядаўна адзін маленькі хлопчык не мог перабрацца на другі бераг ракі. Я зламаў старое сухое дрэва, якое ўжо даўно памерла і ледзь трымалася. Яно магло паваліцца і забіць каго-небудзь, а я зрабіў з яго мост. Хлопчык прабег па ім, спыніўся і сказаў: «Які дурны вецер! Усе дрэвы гэтак паваліць!»

Вецер змоўк, памаўчаў крыху і дадаў з нейкім нават недаўменнем:

— Не, што ні кажыце, а людзі вельмі дзіўныя істоты!

Нарэшце, надышла чарга Паветра.

— Я люблю людзей, — пачало яно свой аповед. — Нават калі яны робяць штосьці кепскае, я ведаю, што гэта не таму, што людзі злыя. Хутчэй іх проста нешта ўсхвалявала ці збянтэжыла. А можа, яны трапілі ў непрыемную сітуацыю, ці іх хтосьці моцна пакрыўдзіў. Пачуцці людзей — вось што сапраўды дзіўна. Пачуцці заўсёды імі кіруюць і прымушаюць рабіць тыя ці іншыя рэчы...

— Балаболка! — засмяяўся Вецер. — Сама не ведаеш, што вярзеш!

— Што такое добрае і карыснае робіш ты для людзей, якіх, па сваіх жа словах, вельмі любіш? — злосна буркнуў Смерч.

Паветра задумалася. А сапраўды, што? Яно ж толькі ходзіць і назірае за імі. Проста не можа без гэтага...

— Нічога... — ціха адказала Паветра. — Проста люблю і ўсё...

— А ведаеш, людзі таксама любяць цябе, хоць ніколі не кажуць гэтага,— сказаў Вецер, звяртаючыся да Паветра. — Проста без цябе яны не могуць. Без Смерча могуць, без мяне таксама нейкі час абышліся б... А вось калі б ты знікла — яны і некалькі хвілін не пратрымаліся б. Вось як моцна ты ім патрэбна!

***Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,***
***в. Дворнае Сяло, Мёрскі раён***

## Прыгоды зайчыка Скока

### Як зайчык Скок не любіў капусту есці

У адным казачным лесе жыў вельмі пераборлівы зайчык Скок. І тое яму было не так, і гэта не гэтак, але больш за ўсё наш зайчык быў пераборлівы да ежы, акрамя цукерак, вядома ж. А капусту наогул цярпець не мог. З яго куста было толькі і чуваць: «Не жадаю капусты! Не буду капусту!» Маці не ведала, чым карміць свайго зайчыка.

А аднойчы Скоку так надакучыла капуста, што ён збег у лес. Бег, бег, а насустрач яму вялізны воўк. Кінуўся зайчык назад, а там другі воўк, яшчэ большы, а за ім і трэці і чацвёрты з-за куста вылазяць. Акружылі драпежнікі беднага Скока з усіх бакоў. Куды бегчы?

Раптам на палянку выбег заяц-баксёр. І адразу ж убачыў, у якой бядзе апынуўся яго маленькі сябар.

Падбег заяц-баксёр да ваўкоў і давай іх біць. Аднаму — у нос, другому — у вуха, астатнія ваўкі не пажадалі быць бітымі, спужаліся ды і разбегліся ва ўсе бакі. У лясной газеце нават была заметка пра гэты выпадак.

Неўзабаве Скок зноў сустрэў у лесе зайца-баксёра і спытаўся ў яго: «Чаму ты такі дужы?» «А таму, — адказаў заяц-баксёр, — што я не толькі спортам займаюся, але і кожны дзень капусту ем! А вось ты толькі цукеркі любіш!»

Не ведаю, так было ці не, але чула я, што цяпер ваўкі ў гэтым казачным лесе баяцца чапаць зайцоў, таму што ўсе зайцы вельмі любяць ласавацца капустай.

### Як зайчык Скок лісіцу перахітрыў

Аднойчы зайчык Скок пайшоў пагуляць. Прыскакаў на луг, наеўся там свежай траўкі і пабег на вадапой.

А тым часам лісіца прасачыла, якім шляхам Скок накіраваўся да вады, і вырашыла злавіць яго на зваротным шляху. Ды не ведала хітрыца, што па лесе ходзіць дзядзька з сабакам...

Схавалася лісіца за кусцікам, падсцерагаючы Скока, а зайчык тым часам напіўся вады і пачаў разглядваць сваё адлюстраванне на воднай гладзі, нібыта ў люстэрку.

На шэрай, даволі прыгожай мордачцы блішчэлі кругленькія вочкі, белыя нітачкі вусоў тырчалі ў розныя бакі, нібыта антэны. На чорным носіку зіхацела ўсімі колерамі вясёлкі празрыстая кропелька вады. А доўгія вушкі Скока маглі падняцца ўгару або схавацца, прыхіліўшыся да шэрай спінкі па яго жаданні.

«Які я прыгожы!» — узрадаваўся Скок і пляснуў лапай па вадзе. Дробныя хвалі разбегліся кругамі, скалыхнуўшы жоўценькую кветку гарлачыка, на якой адпачываў маленькі матылёк.

Страпянуўся матылёк, расправіў свае срэбныя крылцы, узляцеў і накіраваўся ў бок лесу, менавіта туды, дзе схавалася лісіца-хітрыца. Цікаўны Скок адразу ж паімчаўся за матыльком, а калі наблізіўся да кусціка, дзе сядзела ў засадзе лісіца, убачыў непадалёк чалавека з сабакам.

Скок вельмі спужаўся. Прыхіліў вушкі да спінкі, скокнуў далёка ўбок і знік. А лісіца так марыла пра смачны сняданак, што, заўважыўшы сабаку, кінулася да яго, думаючы, што гэта заяц.

Забрахаў сабака, схапіў лісіцу за хвост. Расчараваная, напалоханая лісіца заверашчала ад болю і пусцілася наўцёкі. Яна, вядома ж, выратавалася, але засталася без кончыка хваста.

Паляўнічы не стаў страляць у лісіцу, бо ўлетку паляванне забаронена. А з кавалачка хваста, што згубіла лісіца, ён зрабіў цудоўную цацку сваім дзецям.

Так Скок змог абхітрыць рыжую махлярку. А кончык хваста ў лісіцы з тае пары так і застаўся белым.

*Лізавета САЕВІЧ,*
*г. Мінск*



● **Школа пачынаючых журналістаў**

# Мая зямля

**АД РЭДАКЦЫІ.**

***Сёння ў нашай «Школе пачынаючых журналістаў» выступаюць Максім Сямёнаў, вучань салігорскай сярэдняй школы № 4, і Алеся Пацеенак, вучаніца Дворнасельскай сярэдняй школы Міёрскага раёна.***

***Максім з задавальненнем наведвае гістарычныя мясціны Бацькаўшчыны: замкі, сядзібы, касцёлы. Можа, таму чатыры гады запар займае першыя месцы на раённых алімпіядах па гісторыі. Акрамя гэтага, Максім вельмі любіць творы беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх Караткевіч, Быкаў, Гарэцкі. Падабаюцца яму таксама польскія пісьменнікі: Сянкевіч, Рэймант. Не дзіўна, што Максім і сам пачаў спрабаваць сілы ў літаратуры.***

***Алеся Пацеенак пра сябе і родны куточак распавяла ў творы «Мая зямля». Ды так цікава і падрабязна, што нават няма чаго дадаць...***

## Незабыўнае

*Літаратурная апрацоўка ваенных успамінаў Кацярыны Арцёмаўны Прыхожай.*

### *Чорны крыж*

Яшчэ за тры дні да таго, як немцы занялі нашу вёску, майго бацьку Арцёма, кіраўніка Старобінскага раённага камітэта партыі, адправілі на фронт. Маці доўга плакала, баялася, што Арцём загіне. Я і малодшая сястра Алеся не разумелі, што вакол адбываецца. Толькі з раповедаў настаўніка мы ведалі пра грамадзянскую вайну і





яе герояў. Мне было дзевяць, Алесі — сем, а малодшаму брацiку Івану ўсяго пяць годзікаў. Хто з нас разумеў, што такое вайна? Адна толькі маці Ганна.

Ноччу маці пабудзіла нас і сказала, што немцы ў вёсцы і трэба хавацца ў склепе. Спачатку было ціха, а потым — невялікая перастрэлка. Я спужалася, а Алеся з Іванкам заплакалі. Ніхто не ведаў, што рабіць. Маці пачала супакойваць нас, распавядаць казкі. Паступова страляніна сціхла. Бой скончыўся, але немцы маглі расстраляць усіх, каго ўбачаць. Вырашылі не вылазіць. Раніцай пеўні пабудзілі вёску. Мы вылезлі, выйшлі на двор і ўбачылі немцаў. Яны рагаталі, пілі шнапс і спявалі. Аўтаматы ляжалі ў кучы, каля плота. Салдаты ўбачылі нас, замахалі, штосьці сказалі па-свойму. Відаць было, што яны настроены не варожа. Але маці не пусціла нас да іх.

Вось так і было ў той вераснёўскі дзень.

А неўзабаве мы, дзеці, пайшлі ў лес. Трэба было перайсці поле. Спачатку ўсё было добра, а потым пачуўся шум, гудзенне, і на нашым, правым, беразе Случы сеў нямецкі самалёт! Як потым даведаліся, нямецкая авіяцыя называлася «*Люфтваффэ*». На хвасце і на крылах былі чорныя крыжы. Паблізу расла пшаніца, мы схаваліся ў ёй. Хутка пачулі галасы. Немцы падыходзілі бліжэй. І тут мы кінуліся ўцякаць. Яны крычалі: «Хальт, хальт! Хэндэ хох!». Аднак не стралялі па нас. Мы беглі з усіх сіл. Хутка былі дома, расказалі ўсё маці.

Так для нас пачалася вайна.

### *Кіслыя журавіны*

...Часам пад вечар мы хадзілі ў лес, бо нямецкія танкі знішчылі калгасны сад і поле, таму шукаць там не было чаго. Праз некаторы час з-за недахопу ежы памерлі свінні, і становішча, асабіста зімой, было вельмі цяжкае. Вясной 1942 года ўсё заціхла, баі былі далёка. На агародзе змаглі штосьці пасадзіць, так і жылі...

На бабіна лета, цёплым кастрычніцкім днём, мы накрывалі на стол — на агародзе, дзякуй богу, сёе-тое нарасло. Ды яшчэ ў лесе назбіралі журавін. На стол паставілі: у цэнтры — журавіны, цэлая міска, па баках — бульба і яйкі. Смачна! Глянулі ў акно і ўбачылі, што да хаты падыходзяць два нямецкія сал-



даты. Спачатку мы крыху спалохаліся, аднак прыгледзеўшыся, зразумелі, што гэта не карнікі.

Калі салдаты падышлі да хаты, адзін з іх, зазірнуўшы ў акно, спытаў:

— Матка дома?

— Дома, — адказалі мы, і салдаты ўвайшлі ў хату.

Першы з іх, убачыўшы журавіны, тыцнуў пальцам другому і сказаў нешта. Той нічога не адказаў, паціснуў плячыма. Першы падышоў да нас і зноў спытаў:

— Што гэта?

— Журавіны. Частуйцеся! — адказала маці.

Салдат ўзяў адну, другую, але адразу ж выплюнуў і крыкнуў нешта па-свойму. Павярнуўся да нас і дадаў:

— Кісло!

— Вазьміце яйкі! — спужалася маці.

Салдаты селі на лаўку, з’елі два яйкі, бульбу, усталі і выйшлі з хаты, крыкнуўшы штосьці на сваёй мове.

— Да пабачэння, да пабачэння, — не зразумеўшы, развіталася маці.

— Мама, яны сказалі не «да пабачэння», а «данке», што гэта значыць?

— А якая розніца? Паелі. Нас не кранулі і пайшлі. Хай ідуць.

Больш немцы да нас не заходзілі. Карнікі сюды не прыйшлі. Старобін — цэнтр партызанскага руху — быў на левым баку Случы, мы — на правым. Адносна спакойна дажылі да лета 44-га. Нямецкая армія адступала, была неразбярыха. Мы хаваліся ў склепе і выйшлі, калі прыйшлі атрады Савецкай Арміі.

У хуткім часе наша вёска стала часткай Старобінскага раёна.

Чырвоная Армія ішла на Берлін!

***Максім СЯМЁНАЎ***

## Мая зямля



Кожны чалавек звязаны з той зямлёй, на якой нарадзіўся. Так, усе дзеці нашай мілай маці-зямлі павінны ведаць, што краіна, у якой мы жывём, — гэта самы цудоўны падарунак, самае дарагое, што ў нас ёсць. Патрэбна толькі сэрцам адчуць сваю еднасць з ёй, і тую сілу, што можа даць чалавеку толькі родная зямля.

Бо як не любіць край, дзе ты нарадзіўся і вырас! Як не любіць край, дзе гудуць бары-лясы, шумяць бяскрайнія пушчы, дзе на

варце красунь-бяроз стаяць асілкі-дубы і, апусціўшы галіны-рукі, па-над рэкамі растуць лозы. Сінявокі наш край азёр і рэк прываблівае сваёй прыгажосцю. Серабрысты бляск сцюдзёных крыніц і лясных ручаёў прыносіць асалоду чалавеку...

І мне так хочацца расказаць пра невялікую частачку нашага краю, мілую майму сэрца Міёршчыну. У гэтым прыгожым месцы знаходзіцца невялікая вёска Малая Кавалеўшчына, дзе я нарадзілася і жыву са сваімі бацькамі. Яе цяжка адшукаць нават на самай вялікай карце, бо яна такая маленькая. Але ж вёска вельмі родная, любая мне. Яна — мая Малая Радзіма. Веру, што мая вёска адна такая ў свеце. У летні поўдзень над ёй затрымліваецца сонца і доўга-доўга стаіць над хатамі, агародамі, нібы звярае свой компас. За нашым прыгуменнем спяваюць самыя галасістыя салаўі. Жабы вясною выдаюць такія канцэрты, што гарадскому аркестру і не снілася. Адпачыць у нас таксама ёсць дзе: уявіце сабе прыгожы парк з высокімі ліпамі. Асабліва прыгожы ён летам. Густая лістота стварае шацёр, пад якім можна схавацца ад пякучых сонечных промняў.

А ў ліпені ў парку пачынаюць цвісці ліпы. Які прыемны стаіць пах паўсюль, нават не перадаць словамі. Гэты парк — любімае наша месца адпачынку.

А яшчэ праз нашу вёску праклала свой шлях маленькая рачулка Волта. Яна дорыць усім прыемную асалоду і мноства ўражанняў. Летам яна прываблівае непаўторнай прыгажосцю белых і жоўтых гарлачыкаў. А зімой мы катаемся тут на каньках і санках. Гэта сапраўдны лядовы палац пад адкрытым небам.

У нас на рэчцы гаспадараць бабры. Там знаходзяцца іх дачы-катэджы. Яны вельмі добрыя дрывасекі і будаўнікі.

У кожную пару года мая вёска па-свойму прыгожая. Восенню яна залатая. Зімой на дрэвах, на хатах — белае покрыва. І здаецца, вёска спіць разам з усёй прыродай. А вясной яна зноў ажыве і парадуе мяне сваёй казачнай прыгажосцю. А яшчэ вясной з цёплых краін вяртаюцца птушкі: гракі, шпакі, ластаўкі, дзікія качкі і гусі, журавы і буслы.

Буслы селяцца паблізу чалавечага жытла. Здаўна лічыцца, што гэтая птушка прыносіць шчасце. Няхай жа белыя крылы буслоў нясуць шчасце маёй маленькай радзіме, маёй роднай вёсачцы.

***Алеся ПАЦЕЕНАК***



● **Літаратурныя старонкі «Бярозкі»**

*Генадзь АЎЛАСЕНКА*

# Вясёлыя рыфмаванкі

## Слон і ўслон

Слон някепскім майстрам быў — рэчы розныя рабіў. Неяк Слон зрабіў услон… ды баіцца сесці Слон. Раптам сядзе і зламае, бо вагі нямала мае!

Слон бяжыць да Насарога. Кажа:

— Трэба дапамога! Да мяне хутчэй прыйдзі ды на ўслоне пасядзі. Калі вытрымае ўслон, значыць, можа сесці й слон…

Насарог пачухаў рог, ды адмовіцца не змог.

— Добра, — кажа, — паспрабую! Чаравікі вось абую, адшукаю парасон і пайду з табою, Слон.

Дзве гадзіны ён збіраўся, тры гадзіны апранаўся. Парасон пачаў шукаці — раскідаў усё па хаце. Пяць гадзін яго шукаў, Слон усё стаяў, чакаў. Не знайшоўся парасон! І куды ж падзеўся ён?!

Лёг у ложак Насарог, зноўку свой пачухаў рог.

— Зараз, — кажа, — адпачну і далей шукаць пачну!

Слон падумаў, уздыхнуў, потым хобатам махнуў і пайшоў да Бегемота, у бліжэйшае балота.

— Дружа, — кажа, — памажы! На хвілінку забяжы! Сядзь на новы мой услон — калі вытрымае ён, дык і я сядзець змагу…

— Добра, я дапамагу! — пагадзіўся Бегемот. Павярнуўся на жывот. — Але ж я з таго пачну, што з хвілінку адпачну. Бо такі ўжо ў нас рэжым: ноч гуляем — дзень ляжым…

Так сказаў ён, пазяхнуў, павярнуўся і… заснуў.

Што ж, чакаць не ў навіну сёння нашаму Слану. Вось прайшла даўно хвіліна, вось ужо прайшла гадзіна, вось прайшла гадзіна з гакам — Слон чакае, небарака! Тры гадзіны… потым пяць… Колькі ж можна ўжо чакаць! Слон пачаў гукаць, трубіць — Бегемот салодка спіць. Колькі Слон не спрабаваў, колькі сябра ён не зваў… толькі, як і з Насарогам, зноў не выйшла анічога!

Уздыхнуў самотна Слон і пабрыў дахаты ён. Вось прыйшоў, зайшоў у хату, глядзь: а там гасцей багата! Дзве кузуркі, тры жукі і чатыры павукі селі дружненька на ўслон… іх пакуль трымае ён!

Тут і муха падляцела, а за ёй другая села. Зноўку вытрымаў услон — значыць, можа сесці й Слон?

Слон з палёгкай уздыхае і ўжо сесці вырашае, ды, на тую на бяду, чуе Слон — «Ду-ду! Ду-ду!» Ён глядзіць — ляціць камар, важны, нібы гаспадар! Над услонам робіць круг, заглядаецца на мух, на кузурак, на жукоў, на суседзяў-павукоў. Хоча побач з імі сесці, з імі гутарку завесці.

Сеў на ўслон і… охнуў Слон. Разваліў камар услон!

## Лісіца і Вавёрка

Бегла праз гушчар Лісіца, даўгахвостая хітрыца. Усю ночку палявала, ды дарэмна час губляла: ні ля вёскі кураня не схапіла, ні ля норкі мышаня не злавіла, потым зайца ўхапіць спрабавала, потым качку ля ракі цікавала. Цікавала, палявала да рання, ды няўдалым было тое паляванне!

Вось бяжыць яна галодная ды злая, па баках вачыма прагна пазірае.

Глядзь: Вавёрка на ялінцы, на танюсенькай галінцы, ці то шышку абірае, ці то проста з ёй гуляе. Карацей, сядзіць высока, і хоць бачыць яе вока, ды зубамі не ўхапіць...

Як жа тут Лісіцы быць?

Ход Лісіца прыпыняе, на яліну пазірае, ля яліны ходзіць бокам, на Вавёрку адным вокам то зірне, то не глядзіць, то прысядзе, пасядзіць. І заводзіць з ёй гаворку:

— А ці чула ты, Вавёрка, што закон з'явіўся новы, ці, дакладней, пастанова? А па ёй мы ў гэтым годзе жыць павінны ў поўнай згодзе! Каб змянілі харчаванне ўсе пад страхам пакарання, каб слабейшых не хапалі, каб на іх не палявалі, харчаваліся травою, ці асінавай карою, ці грыбы сабе шукалі, ці карэньчыкі капалі! Можна шчэ злавіць жука, можна з'есці чарвяка альбо слімака якога... ну а болей — анікога! Так што можаш не баяцца і з ялінкі ўніз спускацца! Я закону не парушу, сябраваць з табою мушу. Будзем разам мы гуляць, будзем ягады збіраць, будзем шышкі церушыць, на зіму грыбы сушыць...

А Вавёрка скок-паскок, ды не ўніз, а ў іншы бок. Аж на самай верхавінцы, на танюсенькай галінцы села, пасядзела, вакол паглядзела. Ды і кажа:

— Слухай, Ліска! Тут бягуць сабакі блізка, і якраз бягуць сюды! Вось раней было б бяды! Ты б сама іх не чакала, а без памяці ўцякала! Ну, а зараз, раз закон, то для ўсіх адзіны ён! Так што можаш не баяцца і на месцы заставацца, бо сабакі не прыстануць і чапаць цябе не стануць!

Як ускінецца Лісіца, даўгахвостая хітрыца, як па лесе паімчыць! А Вавёрка ўслед крычыць:

— Ты куды бяжыш, Лісіца? Хто ж цяпер сабак баіцца? Ты ж сама пра пастанову мне казала слова ў слова!

А Лісіца прэ наўцёк і крычыць ужо здалёк:

— Пастанова ёсць, аднак... хто іх ведае, сабак! Мо яны па будках спалі, пастановы не чыталі!





# Зорка з Усходу




***У сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 5 з 1999 года працуе Інфацэнтр японскай культуры, кіраўніком якога з'ўляецца Масако Тацумі. Галоўная мэта цэнтра скіравана на тое, каб дапамагчы беларусам глыбей спазнаць культуру і звычаі Краіны ўзыходзячага сонца. Інфацэнтр арганізоўвае сустрэчу «Знаёмства з Японіяй», ладзіць спецыяльныя выстаўкі кімано, дэманстрацыю чайнай цырымоніі, пераклад японскіх дзіцячых кніг. Масако-сан, доўгі час жывучы ў Беларусі, зацікавілася творчасцю нашых пісьменнікаў, пераклала з беларускай мовы на японскую вершы Адама Глобуса, Леаніда Дранько-Майсюка, Генадзя Бураўкіна, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа...***

***30 ліпеня Інфармацыйны цэнтр японскай культуры арганізаваў цудоўную сустрэчу: казачнае падарожжа па творах японскага дзіцячага пісьменніка Нанкіці Ніімі, прымеркаванае да яго стагадовага юбілею. Спадарыня Масако распавяла: «Будучы пісьменнік, паэт, перакладчык і педагог Нанкіці Ніімі, які нарадзіўся ў пасёлку Янабэ (цяпер горад Ханда), вельмі рана пачаў пісаць і ўжо ў 14 гадоў сам выдаваў літаратурны часопіс "Арыён". Творчасць была для яго усім. Ён чытаў замежную і рускую класіку. Удзельнічаў у шматлікіх дзіцячых конкурсах, увесь час працаваў і працаваў...***

***Ніімі на выдатна скончыў англійскае аддзяленне Такійскага дзяржаўнага інстытута замежных моў. Стаўшы настаўнікам, з яшчэ большым імпэтам ствараў апавяданні і казкі для дзяцей. У 1941-м пабачыла свет яго першая кніга "Аповесці пра Рёкан", а праз год — зборнік казак "Дзядуліна лямпа". Ён мог бы яшчэ шмат што напісаць, але ва ўзросце 29 гадоў Нанкіці Ніімі памёр ад сухотаў».***

***Але нягледзячы на тое, што выбітная зорка Усходу так хутка згасла, Ніімі пакінуў нашчадкам выдатныя творы. Сярод самых вядомых ягоных казак: «Лісяня Гон», «Гаротнасці смаўжа», «Ледзянец», «Дрэва мінулага года», «Ліса». Дарэчы, цяперашняя імператрыца Міціко ў дакладзе на 26-м Кангрэсе Міжнароднага Савета па кнігах для дзяцей (International Board on Books for Yong Pepople, Нью-Дэлі, 1998) сказала, што па-сапраўднаму свет дзіцячай літаратуры яна пазнала дзякуючы творчасці Нанкіці Ніімі.***

***Менавіта да юбілею казкі Нанкіці Ніімі былі перакладзены на рускую і беларускую мовы ў межах праекта Інфацэнтра японскай культуры. Такую важную і вельмі цікавую працу зрабіла дачка Масако Тацумі — Юйэ. Дзяўчынка пачала вывучаць беларускую мову яшчэ ў дзіцячым садку, вывучае і цяпер, больш паглыблена, у беларускім класе СШ № 190 г. Мінска. Юйэ прызнаецца, што японскую мову цяжка вывучаць, бо трэба запомніць шмат іерогліфаў. Пакуль што яна ведае каля 800, у мінулым годзе здала экзамен і атрымала Міжнародны сертыфікат іспыту па вызначэнні ўзроўню японскай мовы (Japanese Language Proficiency Test) на трэці ўзровень.***

***Прапануем казкі Нанкіці Ніімі.***

*Дар'я ШОЦІК*

Нанкіці НІІМІ

## Дрэва мінулага года

Адно Дрэва і адна Птушка былі добрымі сябрамі. Птушка цэлы дзень спявала, седзячы на галінах Дрэва, а яно цэлы дзень слухала птушынае шчабятанне.

Але набліжалася халодная зіма, і ёй трэба было ляцець на развітанне з сябрам.

— Да пабачэння, — сказала Дрэва сяброўцы. — Спадзяюся, калі прыйдзе наступны год, я змагу зноў пачуць твае песні.

— Вядома! Чакай мяне да гэтага тэрміну, — адказала яна і паляцела на поўдзень.

І вось прыйшла вясна. У палях і ў лясах сышоў снег.

Птушка вярнулася да свайго сябра.

Але што такое? Дрэва там не было. На яго месцы застаўся толькі Пянёк.

— Куды дзелася Дрэва, якое стаяла тут? — спытала Птушка ў яго.

— Дрывасек ссек яго сякерай і панёс у даліну, — адказаў Пянёк.

Птушка паляцела ў даліну.

На дне даліны размяшчаўся вялікі завод, дзе вішчалі пілы, якія распілоўвалі дрэвы.

Птушка села на завадскія вароты і запыталася ў іх:

— Вароты-сан*, ці не ведаеце вы, дзе мой сябар-Дрэва?

— Калі ты пра Дрэва, то на заводзе яго, тонка нарэзаўшы, ператварылі ў запалкі і прадалі вунь у тую вёску.

Паляцела яна ў вёску.

Там убачыла дзяўчынку каля лямпы і спытала яе:

— Паслухайце, ці не ведаеце вы што-небудзь пра тыя запалкі?

— Усе запалкі ўжо згарэлі. Але запалены запалкамі агонь усё яшчэ гарыць у гэтай лямпе, — адказала дзяўчынка.

* -сан — зварот.

Птушка стала пільна ўзірацца ў агеньчык лямпы, а потым заспявала песню, якую спявала Дрэву ў мінулым годзе. І заўважыла, што агеньчык задрыжэў і пахіснуўся, нібы радаваўся ад усёй душы.

Даспяваўшы сваю песню, Птушка яшчэ доўга глядзела на агеньчык лямпы. А потым яна паляцела, а куды — ніхто не ведае.

*1940 г.*

## Ледзянец

Аднойчы вясновым цёплым днём у лодку селі мама і двое дзяцей.

— Гэй, пачакайце мяне! — махаючы рукой, крыкнуў з берага самурай*, — лодка ўжо збіралася адчаліць. Ён таксама сеў, і лодка паплыла да другога берага.

Самурай сеў у сярэдзіне лодкі. Было вельмі цёпла, і воін задрамаў.

Бачачы, як моцны з выгляду, з вялікай сорнай барадой самурай дзяўбе носам, дзеці захіхікалі. Маці спалохалася, прыставіла палец да вуснаў і зашаптала.

— Замоўкніце. Калі самурай раззлуецца, то будзе вельмі дрэнна.

Дзеці прыціхлі, але праз некаторы час адно дзіця сказала:

— Мама, дай ледзянец, — і працягнула руку.

І другое дзіця кажа:

— Мама, дай і мне.

Маці дастала з-за пазухі папяровы мяшэчак. Але там быў толькі адзін круглы шарык-ледзянец.

— Дай мне! Дай мне! — прасілі дзеці з абодвух бакоў. Але ледзянец толькі адзін, таму мама не ведала як быць.

— Пачакайце трошачкі. Калі прыплывём на той бераг, я вам куплю.

Але нягледзячы на яе словы, непаслухмяныя дзеці ўсё роўна чапляліся:

— Дай, дай!

Самураю вельмі хацелася спаць, але ён расплюшчыў вочы і змрочна глядзеў, як дзеці выпрошваюць ласунак. Маці перапалохалася яшчэ больш. Яна вырашыла, што дзеці не даюць яму спаць і самурай раззлаваўся.

— Будзьце паслухмянымі, — супакойвала мама дзяцей, але яны не слухаліся.

І раптам самурай устаў, дастаў меч і наблізіўся да мамы з дзецьмі. Маці збялела і прыкрыла дзяцей. Яна падумала, што ён засячэ іх.

— Дай ледзянец мне, — сказаў самурай.

Маці спалохана падала самураю ледзянец. А той паклаў яго на край лодкі і дакладным ударам мяча рассек салодкі шарык на дзве роўныя часткі.

— Бярыце, — сказаў самурай, падаў падзелены ледзянец дзецям і, вярнуўшыся на сваё месца, зноў задрамаў.

*1941—1942 гг.*

---

* Самурай — японскі воін.

***Пераклад на беларускую мову Юйэ ТАЦУМІ***
***На фота: Юйэ Тацумі, юная перакладчыца казак***



Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 36 000 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 15 900 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 45 600 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 11200 руб.***


Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 10.10.2013. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 13,79. Тыраж 2468 экз. Заказ 3245. Кошт нумара ў розніцу 16 600 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.




**maladost@bk.ruhttp://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**